Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 20.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць два разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **160.000** м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 30.000 мк., сярод тэксту 25.000 м. і на 4 стр. 20.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 6. Вільня, Чацьвер, 15-га лістапада 1923 г. Год I.

## Характэрнае выступленьне.

Толькі цяпер дайшла да нас стэнаграфічная справаздача аб прамове прадстаўніка Польшчы ў Лізе Нацыяў, п. Скірмунта, сказанай на засяданьні Лігі 14. IX. 1923 году.

Для нас асабліва цікавай зьяўляецца тая частка прамовы п. Скірмунта, у якой ён зачапіў пытаньне аб палажэньні нацыянальных меншасьцяў у Польскай Рэспубліцы.

„У справе, якая спэцыяльна цікавіць Лігу Нацыяў—у справе нацыянальных меншасьцяў—я хацеў даць некалькі прыкладаў, каб абразова прадставіць нашае становішча. Вазьму за прыклад школьную справу“.

Так сказаў п. Скірмунт і... даў прыклад істнаваньня ў Польшчы 1549 нямецкіх школ, 2426 украінскіх пачаткавых школ (у Галічыне) і, ўрэшце, школ жыдоўскіх. Але не сказаў, што нямецкія школы на тым-жа абшары ў шмат вялікшай лічбе істнавалі да сусьветнае вайны, закладзеныя *Нямецкай дзяржавай і нямецкім грамадзянствам* тады, калі часьціна Польшчы (Пазнань, Паморые, Шлёнск) належалі да Нямеччыны; не сказаў, што ўкраінскія школы ў Галічыне — гэта астача таго, што было закладзена йшчэ пад панаваньнем *Аўстрыі*; не сказаў, што жыдоўскія школы — старэйшыя за Польскую дзяржаву; ды, ўрэшце, ні словам ня ўспомніў аб беларускіх школах, якіх у аднэй Віленшчыне ў мамэнт далучэньня Заходняе Беларусі да Польшчы істнавала каля 200 і цяпер асталося йшчэ... *некалькі*. Не сказаў, што і гэтая *астача* беларускіх народных школаў у межах Польскага гаспадарства з *кожным днём нікне*, а якім спосабам гэта робіцца, аб тым нам нядаўна давялося пачуць ад бацькоў дзяцей, што вучацца ў гэных засуджаных на сьмерць школах.

Вось, што нам апавядаюць людзі, прыехаўшыя з Сьвянцяншчыны. Беларускія школы ў лічбе 14 добра разьвіваліся ў часе, калі школьным інспэктарам тамака быў п. Мілашэньскі. Але з пераменай агульнага палітычнага курсу віленскае Куратарыум звольніла яго са службы. І з таго часу пачынаецца адкрыты паход проці беларускіх школ. Там, дзе побач з *поўнай* беларускай школай істнавала *пустая*, бо байкатаваная народам, польская школа, ўлада *злучала* гэтыя школы ў імя „oszczędności“, але, ведама, „злучала“ іх так, што ад беларушчыны не аставалася і сьледу!... Там-жа, дзе гэтага нельга зрабіць, там вучыцелю-беларусу ў *чатыры вочы*, „неафіцыяльна“ прапануецца.... да Каляд перайсьці на польскую выкладовую мову, пры чым „далікатна“ даецца зразумець, што ў праціўным прыпадку знойдзецца даволі прычын дзеля звальненьня вучыцеля са службы. Калі-ж сьмялейшыя просяць даць загад на паперы, кажучы, што інакш яны ня здолеюць апраўдацца перад бацькамі вучняў,—ім у гэтым адмаўляюць....

Падобнымі спосабамі ліквідуюцца школы ў Вільні. У мінулым школьным годзе ў Вільні было *сем* беларускіх пачаткавых школ. Вясной улада выслала з Вільні ў глыб Польшчы вучыцеля школы на Антокалі, Ходзьку, а другога на яго месца не назначыла, і школа разсыпалася. Блізу адначасна адмовіўся ад школы вучыцель беларускае школы на Зарэччы, студэнт Малафееў; на яго месца ўлада так сама нікога не назначыла, дык і гэтая школа перастала істнаваць. Школа на Радунскай вуліцы мела няпоўны кamплект, дык яе злучылі з школай пры праваслаўным магільніку, на Ліпаўцы. Гэтакімі спосабамі лічбу школ у Вільні давялі ў пачатку лета да *трох*, а ў восені і гэтая лічба паказалася ўладзе лішне вялікай для „чыста польскай Вільні“, і вось школу на Ліпаўцы „далучылі“ да школы на Вострабрамскай вул. № 9 (у сьв.-Траецкіх мурох), добра разумеючы, што беларуская бедната, блага адзетая і блага абутая, ня здолее ходзіць у сьв.-Тройцу з Ліпаўкі — за некалькі вярстоў ходу! І гэтак у Вільні *яшчэ* істнуюць *дзьве* пачаткавыя беларускія школы, даючы доказ... „толерантнасьці“ гаспадароў палажэньня....

Мы вельмі шкадуем, што п. Скірмунт не расказаў у Лізе Нацыяў аб палажэньні беларускае пачаткавае школы: прамовы нашых паслоў у Сойме далі ўжо даволі матарыялаў дзеля высьвятленьня гэтай справы, і ахарактарызаваць палажэньне беларускае пачаткавае школы пад уладай Польшчы можна сьмела ў трох словах: „беларускае школы няма!“

І гэта—напярэдадні ўвядзеньня ў Польшчы агульнага і *прымусовага* пачаткавага навучаньня....

Якой-жа злой іроніяй здаюцца нам, беларусам, словы, якімі п. Скірмунт закончыў сваю характарыстыку палажэньня школ нацыянальных меншасьцяў у Польшчы:

„Я пазволіў сябе падаць прыклад аб публічным навучаньні выключна дзеля таго, каб паказаць, што польская ўлада разумее свае абавязкі адносна да меншасьцяў і мае на мэце стварэньне варункаў, у якіх усім жыхарам былі-бы забясьпечаны іх правы і патрэбы“....

**I. М—ка.**

## Аб апошнім забастовачным руху.

Апошні год праходзіць пад знакам усіліўшагася змаганьня ўмацаваўшайся буржуазнай рэакцыі з аднаго боку і пралетарыяту з другога, і гэта ня толькі ў Польшчы, дзе мы нядаўна былі сьведкамі аднаго з гэтых актаў змаганьняў, але і ўва ўсей Заходняй Эўропе і Амэрыцы. Ня будзем цяпер паўтараць тых думак, якія ня раз ужо выказваліся са шпальтаў нашых газэтаў аб прычынах гэтага абастрэньня барацьбы, зазначым толькі, што ў сувязі з аканчальнай перамогай здэцыдаванай рэакцыі, з яе бязьлітасным паходам проціў усіх пасьляваенных заваяваньняў работніцкай клясы і ў Польшчы, як і ў шмат якіх іншых краёх, распачаўся сярод працоўных мас новы працэс, працэс аб'яднаньня сваіх сілаў, разрыў з тактыкай супрацоўніцтва з буржуазіяй і пераход ад абароны ў праціванаступ.

Ужо хваля чыста-эканамічных забастовак у ліпні і жніўні, пракаціўшаяся праз ўсю Польшчу, мела ў сабе гэтыя адзнакі. Апошнія забастоўкі, распачаўшыяся таксама на грунце эканамічным і ўрэшце перайшоўшыя на грунт чыста палітычны, яшчэ больш сьведчаць аб гэтым. Умацаваньне рэакцыі выклікала пералом у псыхолёгіі работніцкіх масаў і гэтыя масы асудзілі тую палітыку, якую вялі іхныя афіцыяльныя правадыры у асобе партыі P. P. S., як на грунце прафэсыянальных арганізацыяў, так і на соймавым грунце.

Абастрэньне клясавай барацьбы заўсёды нясе з сабою зьмяншэньне, а часта і поўную ўтрату уплываў тых палітычных групаў, якія шляхам кампрамісаў хацелі-б пагодзіць між сабою двух няпрымірымых праціўнікаў. Усе палітычныя групы, якія ня маюць яркага выразнага характару прымушаны адыйсьці ў бок і ўступіць месца прадстаўнікам крайніх кірункаў двух варожых лагераў. Гэта асабліва выразна выяўляецца ў сучаснай Нямеччыне, дзе як ліберальная буржуазія, так і правыя сацыялістычныя партыі аканчальна збанкрутавалі і дзе Баварыя і Саксонія зьяўляюцца ўасабленьнем гэтых двух крайніх кірункаў. Тое самае мы бачым і ў Польшчы. Пасьля няўдалых спробаў утварэньня так зв. „лявіцовых“ урадаў, мы бачым пераход гэтай улады ў рукі прадстаўнікоў гарадзкой і вясковай буржуазіі і заможных сялян. Пасьля апошняй рэконструкцыі габінэту ўплывы заможных сялян зьведзены бадай што да нуля і кіраўніцтва перайшло ў рукі выпрабаваных першарадных сілаў вялікай буржуазіі.

Па меры павялічэньня ўплываў крайняй рэакцыі ў буржуазным лагеры падаюць ўплывы тых партыяў угодніцтва і дробна-мяшчанства ў лагеры працоўных. Ужо забастовочны рух у ліпні і жніўні паказаў утрату ўплываў P. P. S., ня кажучы ўжо аб тым, што энпээраўскія і хадэцкія работніцкія масы проці волі сваіх правадыроў прынялі чыннае ўчасьце ў забастовачным руху. Выпадкі апошніх дзён, а асабліва Кракаўскія, выразна сьведчаць аб поўнай утраце ўплываў P. P. S. на работніцкія масы. Цэнтр. Кам. P. P. S. як і Цэнтр. органы Прафэсыянальных Саюзаў зусім не апанавалі гэтага самачыннага руху, ішлі не на чале, а цягнуліся ў хвасьце яго, і калі выпадкі зайшлі задалёка, самі спужаліся іх вынікаў і пасьпяшылі на кампраміс, ужо нават ня ў вобласьці шырокіх палітычных і эканамічных дамаганьняў, а задаваляючыся толькі нямногімі высунутымі на парадак дня пытаньнямі, як спыненьне палявых судоў і мілітарызацыі чыгунак, якія, як выняткowыя загады, былі б хутка спынены ўрадам нават бяз іх дамаганьняў.

P. P. S. проста ўхапіліся за першы-лепшы выпадак, каб захаваць паказную перамогу і ўрачыста абвесьціць, што яны дабіліся вялікай перамогі і тым захаваць свой аўтарытэт перад работніцкімі масамі.

Але буржуазія добра ведае сілу пэпэсаўцаў і яе прэса выразна падчырківае гэта. „Gaz. Poranna“ пад сьвежым уражаньнем Кракаўскіх выпадкаў констатавала, што адзін Крулікоўскі мае больш уплываў на работніцкія масы, чым уся Польская Социялістычная партыя. Тое-ж самае кажа і „Gaz. Warsz.“: „у Польшчы вытвараецца грунт, на якім расьце буйны камуністычны пасеў. P. P. S. не пануе ўжо сяньня над масамі, яна можа выклікаць нейкі рух, але ня здольна пакіраваць ім. Забастоўкі і палітычныя рухі высоўваюцца з іх рук, карыстаюць з іх камуністычныя элемэнты“. „Gaz. Warsz.“ зусім правільна ацэнівае сытуацыю, калі цьвердзіць, што P. P. S. мыляцца, калі думаюць, што ім удасца ўтрымаць работніцкія масы на палове дарогі і ў крытычны мамэнт змогуць апанаваць сытуацыю. „Масы расчарованых работнікаў у Кракаве выступілі проціў сваіх правадыраў папярэдняга дня, кідаючы па іх адрасу варожыя воклікі і пагражаючы ім нядвузначным спосабам. Падобныя праявы можна было заўважыць і ў іншых мясцовасьцях, гэта ёсьць лёгічнае і абавязкое пасьледства акцыі. Так было ў Кракаве, бо гэта павіна было быць“.

Так, і зусім слушна, ацэнівае палажэньне буржуазія. І калі і ў Сойме і правай прэсе мы чуем напaдкі на P. P. S., дык зусім не дзеля таго, каб буржуазія бачыла ў іх сур'ёзнага праціўніка. Гэта проста жаданьне выкарыстаць мамэнт і пад шумок кракаўскіх выпадкаў распачаць рашучую барацьбу з работніцкім рухам, барацьбу, у якой ня будзе рабіцца розьніцы паміж камунізмам і сацыялізмам, каб выкарастаць няўдачны вынік для работніцкай клясы апошняй забастоўкі і нанясьці ёй аканчальны ўдар, пакуль сілы яе яшчэ дэзарганізаваны.

Правая прэса ўсіх кірункаў дамагаецца найбольш вострых мэтадаў барацьбы. Раздаюцца галасы аб поўнай забароне забастовачнага руху, нават эканамічнага. Дамагаюцца бязьлітаснай расправы з учасьнікамі генаральнай забастоўкі, дамагаюцца судоў і казьняў. Гэтага-ж дамагаюцца і правыя паслы ў Сойме. Урад ідзе на спатканьне гэтых жаданьняў і дамагаецца ад Сойму надзвычайных паўнамоцтваў. Канфіскаты опозыцыйнай прэсы сталі сыстэматычнымі. І пэпэсы, якія яшчэ так нядаўна ў часе ўрадаваньня Сікорскага зусім не пратэставалі проціў рэпрэсіяў, якія сыпаліся на прэсу і дзеячоў іншых работніцкіх кірункаў, самі цяпер апынуліся ў палажэньні прасьледуемых і абвінавачваюцца па тым-жа артыкулам Царскага Карнага Кодэксу.

Як бы ні было, трэба сьцьвердзіць, што выпадкі апошніх дзён не прайдуць бяз сьледу і першым іх вынікам зьявіцца яшчэ большае паглыбленьне пропасьці, якая аддзяляе два змагаючыяся лагеры і поўнае банкруцтва ўсіх тых груп, якія імкнуліся знайсьці нейкія кампрамісы ў вырашэньні тых пытаньняў, у якіх аб кампрамісе ня можа быць гутаркі.

**Кумельган.**

# Буджэт пана мін. Кухарскага.

## II. Палітычны зьмест „буджэту“.

Як мы казалі ў першым артыкуле, сучасная Польшча, створаная ў значнай меры ў „эксцэнтрычных“ мэтах саюзнікаў, скалочанная насьпех з розных кавалкаў—пад магутным ўплывам романтычна-салодкай думкі—уваскрашэньня цалком мінуўшчыны,—зрэалізаваная і разбудаваная пераважна аружнай сілай,—пераважна „у крэдыт“,—коштам пакрываемых толькі „салодкім ядам“ папяровых грошаў, штогод нарастаючых дэфіцытаў,—ствaрыўшая, паводле ўспадкаванай амбіцыі, сваю амаль не „моцарствовую“ моц і вялікасьць коштам пагражаючай фінансава-эканамічнай, а мо' і сацыяльнай катастрофы,—гэтая Польшча на нашых вачох горкім досьледам даходзіць да запраўднага „пачуцьця рэальнасьці“... а можа і да тых вывадаў, якія трэба зрабіць з гэтага пачуцьця...

Вось—першы і галоўны агульны вывад, які мы павінны зрабіць з тых колькіх агульных лічбаў, якія, пад гучнай назовай „буджэту“, унёс п. мін. Кухарскі на разгляд Сойму.

„Буджэт“ п. мін. Кухарскага робіць на гэтым гістарычным шляху Польшчы *да поўнай рэальнасьці* другі... пасьля Рыскага міру...,—і можа ня менш рашучы крок... і таксама—у выніку пагражаючай катастрофы...

Вельмі цікава і характэрна для сучаснай Польшчы, што для дакананьня і гэтага, другога роду „cudu nad Wisłą“ таксама патрэбавалася зьвярнуцца да заграмічнага „генарала“, але ўжо цяпер да „генарала ад фінансаў“...

І яшчэ характэрней для міжнародных адносінаў Польшчы, што гэтага „фінансавага Вэйганда“ высылае Польшчы не саюзная Францыя, ня „прыяцель“ Пуанкарэ, але „вораг“ сучаснай Польшчы — Англія, ды йшчэ—у асобе быўшага „асабістага сэкрэтара“ самага „варожага“ з усіх ангельцаў—Лёйд-Джорджа!...

---

Як ні глядзець на факт захопленьня ўлады ў Польшчы правіцай з таго ці іншага пункту гледжаньня,—зусім бязспрэчна тое, што факт гэты зьяўляецца вельмі простым і няўхільным *вынікам рэальнага банкруцтва лявіцы...*

Мы павінны сьцьвердзіць, што, т. зв., „старая Польшча“, Польшча бацькоў, якая ад самага „ўваскрашэньня“ Польшчы і дагэтуль ня была дапушчана да гаспадарственай улады і працы, дайшла да ўлады дзеля таго, што „Польшча сыноў“, „Маладая дэмакратычная Польшча“ ня мела ані запраўднага „пачуцьця рэальнасьці“, ані запраўднай *„веры ў сябе, у свой „дэмакратызм“, у сваю сілу і правы моладасьці...*

Амаль ужо не „пахаваныя“ „бацькі“ неяк дзіўна і страшна *памацнелі*—пераважна ад таго, што „сыны“ аказаліся зашмат слабымі і бязсільнымі, каб гаспадарыць у радавым бацькаўскім „фальварку“...

У выніку гэтага „Польшча Пілсудскага“, Польшча таннай пуста-вялікадушнай, псэўда-дэмакратычнай фразы і –дарагіх крывава-імпэрыялістычных авантураў скончылася і—незаўсёды!...

Ніякія опозыцыйна-спазьніўшыяся пяруны і маланкі лявіцы ў Сойме, ніякія „генаральныя забастоўкі.—без запраўдных генаралаў—не вернуць ужо ніколі лявіцы раз выпушчанай з бязсільных і няўмелых рук ўлады і не заб'юць вылезшай з „паўмагілы“ ў вобразе „хьены“ „і схапіўшай за горла“ лявіцу—*Польшчы адкравеннага і конкрэтнага клясавага апэтыту Польшчы рэальнага „смаку да ўлады“* і шмат вялікшага, дзеля гэтага „пачуцьця рэальнасьці“...

Іменна гэты „вялікшы рэалізм“ правіцы і робіць яе мацнейшай і неперəможнай для лявіцы.

Палітычнае бязсільле „Польшчы Пілсудскага“, агульна кажучы, зьмяшчалася ў тым, што яе разьмеры, яе „вялікасьць“, былі ў значнай меры *штучна, зашмат павялічаны коштам яе рэальнасьці...*

Міжнародна-палітычна гэтая „Польшча Пілсудскага“ скончылася ў той самы мамэнт, калі французам *самім* прыйшлося ратаваць у 1920 г. гэтую самую Польшчу, якая была імі створана для таго, каб—наадварот—*яна* ратавала Францыю...

Гэтая, ужо тады яскрава ўскрыўшаяся, *аснаўная „антыномія“* (супярэчнасьць) уваскросшай Польшчы была, як ведама, з апошняй яснасьцю і дакладнасьцю фармулявана выдатным францускім публіцыстам п. Bainville'ям у яго знамянітых артыкулах („Action Francaise“ 1921 г).

З гэтага досьледу п. Bainville зрабіў тады-ж усе належныя вынікі...

Ад гэтых вынікаў і пачаўся ў-ва Францыі гэтак званы *„паварот да Facei“* і да таго *„палітычнага рэалізму“*, на якім калісь гэтак моцна оазавалася гэтак трывожучая цяпер ўсё больш і больш французаў небясьпека Францыі...

І вельмі характэрна для большай ад лявіцовай, але неяк няпоўнай „палітычнай рэальнасьці“ правіцы, што яна хоча з усіх сілаў неяк дапасавацца да гэтага гістарычна-няўхібнага руху ў-ва Францыі...

Вельмі спрытна, амаль ня радуючыся, выкарыстаўшы спрытней, як цяпер лявіца... банкруцтва лявіцы, *правалі̇ўшай „Польшчу 1772 г.“* правіца ўжо тады пабіла сваім рэалізмам лявіцу, высунуўшы (Грабскі) шмат рэальнейшую концэпцыю „Польшчы 1921 г.“, Польшчу Рыскага міру—значна *зьменшаную па велічыне—на карысьць яе вялікшае рэальнасьці...*

Як гэта ні дзіўна, польская правіца аказалася менш романтычнай і нават *менш патрыятычнай*, як польская лявіца!...

А калі гэта так, дык можа і цяпер пераход улады да правіцы трэба разглядаць, як *далейшы, зьмушаны самай рэальнай „cnotą z konieczności“*, крок у няўхільным *напрамку паменшаньня „экспансыі“* і наагул вялікасьці Польшчы — на карысьць павялічэньня яе рэальнасьці...

Трэба сказаць, што буджэт п. мін. Кухарскага яскрава і рашуча *пацьвярджае* гэтае прыпушчэньне...

**С.**

(Далей будзе).

# Беларуская школьная справа.

Чыё сэрца ня сьціскаецца ад болі пры думцы аб беларускай школе для нашых вясковых дзяцей? Зачынаецца новы школьны год... Але ці будуць вучыцца ў сваёй школе беларускія дзеткі ў гэтым годзе? Няўжо і ў гэтую зімку дзеці нашыя будуць сядзець без навукі ў роднай мове, няўжо і ў гэтым годзе пад пагрозай штрафу будзе прымушаць беларусаў-сялян польская школьная ўлада пасылаць дзяцей ў польскую школу?

З пачаткам кожнага школьнага году мы чакаем у прасьветнай справе пераменаў на лепшае. Але, мусіць, і гэты школьны год нічога ня дасьць нам лепшага ў параўнаньні з леташнім; неяк так яно выглядае, што папраўкі нечага чакаць. Зьняверыліся мы аканчальна ў добрую волю сучасных школьных ўладаў, што датычыць справы беларускае школы. Ня хочуць яны даць нашым дзецям магчымасьці вучыцца панашаму; хочуць яны, відаць, каб нашыя дзеці вучыліся толькі папольску, каб нашыя дзеці, ды і мы самі, хутчэй загаварылі папольску і сталіся палякамі.

Прыгледзімся, як стаіць школьная беларуская справа ў другіх дзяржавах, дзе апынуліся таксама беларусы пасьля сусьветнай вайны і ўсіх міравых дагавораў.

Возьмем Латвію. Там на невялікую лічбу беларускай люднасці—ў параўнаньні з Польшчай—істнуе 50 з лішнім беларускіх пачатковых школ і 2 беларускіх гімназіі, якія ўтрымліваюцца на кошт Латвійскага Ураду; вучыцялі ўсіх гэтых школ маюць пэнсію ад Ураду; для іх арганізоўваліся беларускія курсы. Відаць, што там улада спагадаець беларускай прасьвеце і дзеля гэтага ня чутно, каб беларуская люднасьць там ваража адносілася да ўладаў.

Возьмем Савецкую Сацыялістычную Беларускую Рэспубліку, якая складаецца толькі з 6 паветаў Меншчыны. Там з агульнае лічбы 1210 школ ёсьць 57 школ польскіх, 46 жыдоўскіх, а ўся рэшта — 1107 школ—ступнёва беларусізуюцца, пры гэтым з іх зусім чыста беларускіх ёсьць ужо 400 школ; апрача таго ёсьць 40 беларускіх дзіцячых дамоў. Гэтыя лічбы ўзяты з афіцыяльнае надрукаванае справаздачы Камісара Прасьветы Б. С. С. Р. Ігнатоўскага. Праўда, у Вітабшчыне, Магілёўшчыне і Смаленшчыне, якія дагэтуль—як гэта не абураюча - дзіўна для нас—не далучаны яшчэ да Савецкай Беларусі, беларуская школьная справа стаіць значна горш, але па тых вестках, якія часамі прыносяцца рээмігрантамі адтуль, і там пашыраецца беларуская прасьвета, прыкладам, у Гомель-

**Я. Пачопка.**

# Як выбраць добрую малочную карову.

(Гл. „Змаганьне“ № 3).

9. **Ногі** як заднія, так і пярэднія ў малочнай каровы не павінны быць грубыя, тоўстыя; суставы павінны быць выразнымі, ніякіх гузоў і нарасьцяў на нагах быць не павінна. Ногі павінны стаяць проста і шырока адна ад другой. Шырокая растаноўка пярэдніх ног сьведчыць аб шырокіх грудзях каровы, а заднія—аб шырокім задзе. Часта бывае, што задніх ногі каленкамі сходзяцца разам і самі ногі сагнуты пад сябе. Купляць каровы з гэткай растаноўкай задніх ног трэба асьцерагацца, дзеля таго што гэткія няпрыгожыя ногі могуць быць і ў цялёнка, дый зад пры гэткіх нагах бывае вузкі, востры, а чым ён нядобры, мы ўжо ведаем.

10. **Вымя** ў каровы ёсьць нібы майстроўня, дзе выробляецца малако. Чым гэта майстроўня будзе большая, тым, зразумела, больш у ёй будзе выробляцца малака. Вымя павінна быць шырокае і доўгае. Бываюць выпадкі, што карова мае надта вялікае вымя, а дае малака зусім мала. Пасьля даеньня гэткае вымя мала меншаець, так што здаецца, быццам зусім ня доена. Гэткае вымя хоць і вялікае, але нічога ня варта, дзеля таго што яно ажырэўшае. Замест тых пузыркоў, з якіх выробляецца малако, гэткае вымя бывае набіта салам. Добрае вымя павінна быць вялікім толькі перад даеньнем, калі яно бывае поўна малака. Пасьля даеньня добрае вымя робіцца малым, абвіслым, як торба; ззаду вымя пасьля даеньня складаецца ў зборкі і чым іх будзе больш, тым лепей. Скура на вымі павінна быць тонкая, далікатная і лёгка адставаць. Калі пашчупаць добрае вымя пасьля даеньня, дык яно будзе тугім, нават цьвёрдым; дрэннае вымя (вялікае, поўнае сала), калі пашчупаць, будзе мягкое.

11. Трэба йшчэ зварачаваць увагу і на **дойкі** (сыскі). Дойкі павінны быць роўнай велічыні і шырока адлягаць адна ад другой. Пярэдняя пара доек павінна быць роўна з задняй. Дойкі павінны быць досыць вялікія і вострыя; круглыя, з тупымі канцамі, дойкі спатыкаюцца найчасьцей у кароў мала малочных, ды й гэткія дойкі туга даіць. Купляючы карову, трэба зварачаваць увагу на тое, каб усе дойкі былі здаровыя і каб праз усе малако йшло аднолькова: бывае часта, што ад недагляду адна альбо дзьве дойкі выбаліваюць і ня дояцца. У каровы зазвычай бывае чатыры дойкі, але ў некаторых ёсьць шэсьць і больш. Дояцца толькі чатыры, а рэшта бываюць меншыя і даіць іх няма карысьці. Чым больш у каровы доек, тым лепш можна спадзявацца на малочнасьць каровы, бо 5—6 доек бывае толькі ў малочных кароў. У кароў хворых на сухоты ў вымі можна напчупаць гузы велічынёй ад гарохавіны да курынага яйка. Зразумела, што гэткай каровы купляць ня трэба. Валасы на вымі павінны быць тоненькія, кароткія і зусім рэдкія; доўгія грубыя валасы сьведчаць аб тым, што вымя ажырэлае і нікуды ня варта. Дойкі павінны быць цэлыя, як і ўсё вымя, без бародавак, струпоў і не патрэскаўшыся. Карову з балючымі дойкамі неяк бывае добра выдаіць, дзеля таго што яна не стаіць спакойна і б'ецца ад болю.

12. **Малочныя жылы**—гэта тыя трубкі, па якіх кроў прыходзіць і выходзіць у вымі. Чым жылы на вымі будуць таўсьцейшыя, чым іх будзе выразьней відаць, тым лепей,—дзеля таго што па іх шпарчэй і больш будзе прахадзіць кроў. З аднаго і другога боку бруха ад вымя йдуць жылы, якія называюцца **малочнымі**; гэтыя жылы зьбіраюць усю кроў з танчэйшых і пераводзяць у сэрца. Жылы гэтыя можна ашчупаць лёгка рукой; у добрай малочнай каровы яны нават добра заметны здалёку. Чым гэтыя жылы будуць таўсьцей, тым карова будзе больш малочная.

13. **Малочныя крыніцы**. Малочныя жылы, пачынаючы ад вымя, ідуць пад скурай; падыйшоўшы далей пад грудзі, яны хаваюцца ў сярэдзіну бруха. Тыя дзіркі, праз якія малочныя жылы пераходзяць у сярэдзіну, называюцца **малочнымі крыніцамі**. Чым гэтыя дзіркі (крыніцы) будуць большыя, тым лепей. У добрай малочнай каровы ў малочную крыніцу можна ўткнуць аж два пальцы.

14. **Скура** таксама служыць добрай прыметай малочнасьці. У малочнай каровы скура не павінна быць тоўстая, грубая. Скура павінна лёгка адцягавацца ад цела і брацца ў зборкі. Калі пры адцягаваньні скуры рубец будзе брацца ў пальцы тоўсты і скура адстае лёгка, дык гэта значыць, што пад скурай у каровы ёсьць шмат сала і што, калі такую карову пачаць добра карміць, дык замест малака, карова будзе сыцець і ўвесь корм пойдзе не на малако, а на сала і мяса.

Таўшчыню скуры шчупаюць на крыжы каля пачатку хваста, на вымі і на астатнім рабры. Таму, хто ні разу ня шчупаў, на першы раз цяжка бывае згадаць тоўстая скура ў каровы або не. Але варта пашчупаць колькі штук кароў, дык пасьля можна ўжо адгадаць адразу. Шэрсьць на скуры павінна быць кароткая, мягкая; найбольш далікатная шэрсьць павінна быць у вушах, на вымі, пад брухам, на макаўцы хваста і на задніх нагах з сярэдзіны.

У добрай малочнай каровы можна знайсьці ў вушах заўсёды шмат серы і калі расхінуць валасы на канцы хваста, дык можна знайсьці каля скуры луску. Некаторыя практыкі кажуць, што калі канец хваста будзе жоўты, дык малако карова дае клустае.

Такім чынам мы разглядзелі ўсе часьці, з якіх складаецца цела каровы і адзначылі якія гэтыя часьці павінны быць у добрай малочнай каровы. Знаючы асобныя часткі, кожны можа зразумець сабе цяпер, які агульны выгляд павінна мець малочная карова.

Наастатак заўважу йшчэ: галава, шыя, карак, грудзі, хрыбет, бруха, крыжавіна, ногі—ёсьць як-бы **агульныя** прыблізныя прыметы малочнасьці, іначай кажучы, гэта ёсьць варункі, якім павінен адпавядаць склад цела добрай малочнай каровы, тады як рэбры, вымя, малочныя жыры, малочныя крыніцы, скура—ёсьць **асобныя** прыметы малочнасьці, па якіх можна ўжо напэўна выбраць добрую малочную карову.

У быкоў таксама, як і ў кароў, бываюць часам дойкі, праўда, зусім маленькія і бываюць яны пад брухам. Быкі, якія маюць пад брухам сыскі, лічацца надта добрымі на племя; каровы ад такога быка будуць больш малочныя.

## II.

## Кармленьне малочнай каровы.

Мы ўжо ведаем тыя прыметы, карыстаючыся якімі можна выбраць добрую малочную карову. Трэба ведаць яшчэ і гэта: якую-б мы добрую карову ня выбралі, а калі пачнем карміць і даглядаць яе дрэнна, дык карысьць будзем мець малую. Дый гэта зусім зразумела: адкуль карова бярэць малако, калі не з таго самага корму, які яна дастаець ад гаспадара. Карова, гэта ёсьць быццам машына, або нават цэлая фабрыка, якая перабляе сена, салому, муку і іншы корм на зусім другі прадукт—малако. Часьць гэтага корму ідзець на абнаўленьне частак, складаючых цела каровы, і на падтрыманьне цяплыні цела, а рэшта корму ідзе на выраб малака. З гэтага відаць, што чым

шчыне летась істнавала ўжо 16 беларускіх пачатковых школ.

Возьмем Польшчу, дзяржаву, дзе мы, беларусы, жывём ў ліку без малага да трох мільёнаў, насяляючы ў нацыянальнай большасьці, як вясковая люднасьць, 22 паветы. Паскольку нас, як жывучых тут, беларуская школьная справа абходзіць найбольш, застановімся шырэй тут над гэтым пытаньнем. Пастараемся карыстацца афіцыяльнымі даннымі. На паседжаньні Сойму 27 ліпеня г. г. былы Міністар Прасьветы пан Глонбінскі, адказываючы беларускім і ўкраінскім дэпутатам на дамаганьні іх аб беларускай ды ўкраінскай школе, сказаў, што „ў Польшчы ёсьць 44 беларускія пачатковыя школы“. Гэта на 22 паветы ды аж 44 школы! А ў той-жа час у кожным з гэтых самых паветаў ёсьць ад 100 да 200 і болей польскіх школ. Так у павеце Воўкавыскім было па афіцыяльнай статыстыцы школьнай 1920—21 г. польскіх школ 110, ў Лідскім 215, ў Беластоцкім 187, у Нясьвіжскім 142, у Валожынскім 129 і г. д., (мысьлю, што цяпер гэтыя лічбы значна пабольшыліся), а ў Віленшчыне па афіцыяльных даных 1923—24 г. ёсьць—у Віленскім павеце 259 школ, у Ашмянскім—189 польскіх школ, у Дзісьненскім—121 школа. Тыя-ж няшчасныя, нібы 44 школы беларускія, ёсьць толькі у паветах Сьвянцянскім і Вялейскім на агульную лічбу 262 урадовыя пачаткавыя школы ў першым і 108 школ у другім павеце.

Што прадстаўляюць з сябе гэныя беларускія школы—аб гэтым скажам ў наступным нумары.

**Баўтручонак.**

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Адбылася нарада парлямэнтарнай камісіі ўрадовай большасьці над палітычнай сытуацыяй, якая вытварылася пасьля забастоўкі і над тактыкай, якой трэба трымацца на бліжэйшым паседжаньні Сойму. Выявілася разьбежнасьць паглядаў паміж прадстаўнікамі Пяста і эндэкамі.

---

Забастовачны рух ува ўсей Польшчы ўжо спыніўся. У Кракаве адбыліся хаўтуры забітых вайсковых і работнікаў, забітых у часе вядомых крывавых выпадкаў. У часе хаўтароў работнікаў утварыўся вялізарны паход, у якім брало учасьце больш 100.000 чалавек. Духавенства адмовілася прыняць учасьце ў хаўтурах.

Мілітарызацыя чыгунак і палявыя суды спынены. Але проціў прымаўшых учасьце у забастоўках стасуюцца рэпрэсіі, выключаюцца са службы і г. д. Ува ўсіх гарадох Польшчы арыштавана шмат работнікаў і работніцкіх дзеячоў і ў тым ліку многа P. P. S. Вядзецца цывільнымі і вайсковымі ўладамі сьледзтва. Павялічыліся прасовыя рэпрэсіі, асабліва ў Галіччыне і Паўдзённай Польшчы.

За апошнія часы яшчэ больш павялічыўся шал дарагоўлі, ня гледзячы на тое, што курс маркі стаіць на адной вышыні. З першага сьнежня зноў павялічываецца чыгуначны тарыф на 100%.

У гандлёвых колах зазначаюць, што гандаль перажывае паважны крызіс, які выклікаецца недахватам гатоўкі і стрыманьнем спадку маркі, дзеля чаго купцы ня робяць запасаў.

---

Газэты паведамляюць, што міністэрства фінансаў зьменшыла на палову падатак ад сьпірту для тых прадпрыемстваў, якія выраблюць з мэлясавых вывараў паташовыя солі. Гэтае зьмяншэньне падатку зьяўляецца новым, у некалькі сотняў мільярдаў марак, падарункам вялікім прамыслоўцам з вялікай стратай для дзяржаўнага скарбу.

---

У Лодзі забаставалі дактары, якія працуюць у Касе Хворых.

У Варшаве працаўнікі аптэкаў таксама пастанавілі абвесьціць забастоўку, калі ня будуць споўнены іх дамаганьні аб павялічэньні платы.

---

У Лодзі застой у прамысловасьці трывае далей. Шмат фабрык зачынена; работнікам адмовілі працу на 2 тыдні.

---

Паслы з P.P.S., запрошаныя на сьнеданьне ў Прэзыдэнта Рэспублікі і на раут з прычыны прыезду югаславянскіх паслоў, выслалі да Пана Прэзыдэнта Рэспублікі і Маршалка Сойму пісьмы, у якіх заяўляюць, што ня могуць быць прысутнымі, дзеля таго што ня могуць сядзець за адным сталом з сябрамі ўраду, загады якіх у часе генаральнай забастоўкі былі прычынай сьмерці і скалечаньня многіх іхных сябраў і таварышоў.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Фашыстаўскі пераварот у Бавары ўжо зьліквідаваны. Кар і ген. Лосаў выступілі проціў Гітлера і Людэндорфа і пасьля баёў у Мюнхэне ім удалося перамагчы Гітлераўскія баёўкі. Гітлер і Людэндорф арыштаваны. Уся ўлада ў Бавары знаходзіцца ў руках Кара.

---

Цантральны Нямецкі ўрад у зьвязку з спробай аружнага перавароту ў Бавары назначыў ваенным дыктатарам генарала Сэкта.

---

У Прусіі, як паведамляе „Vorwärts“, фашыстаўскія арганізацыі ня спынілі дзейнасьці і рыхтуюцца да перавароту.

---

Былы нямецкі кронпрынц выехаў з Галяндыі ў Нямеччыну. Урады Францыі, Бэльгіі, Англіі, Японіі і Італіі зложылі ў гэтай справе ноту Канфэрэнцыі Амбасадораў.

---

У Бэрліне распачалася забастоўка друкаршчыкаў. Газэты ня вышлі.

---

Банк Нямеччыны выпусьціў новыя банкноты па 100 більёнаў марак.

На акупаваных абшарах прамыслоўцы выдаляюць са службы тых работнікаў, якія не згаджаюцца на 10 гадзінны дзень працы. Гэта давяло да забурэньняў сярод работнікаў.

---

У Мюнхэне ўспакаеньне яшчэ не наступіла. Сярод люднасьці пануе незадаваленьне. Дайшло да вуличных баёў. Ёсьць забітыя і параненыя. Забурэньне выклікаюць прыхільнікі Гітлера. Палажэньне напружанае.

---

Генаральны камісар Кар выдаў загад аб разьвязаньні баварскай камуністычнай партыі і забароне выдавецтва сацыялістычнай прэсы.

---

Камуністы выступілі з Тюрынгенскага ўраду. Коаліцыя левых партыяў распалася.

## С. С. Р. Р.

Сэсія Цантральнага Выканаўчага Камітэту разглядала справаздачу аб арганізацыі прамысловасьці і уставу аб найвышэйшым Судзе ў Радавых Рэспубліках. Унесены праект аб рэарганізацы Рады Народнай Гаспадаркі (Совнархоз). Мае быць утвораны Цантральны ўрад дзяржаўнай прамысловасьці, які будзе выпаўняць функцыі тэхнічнага кантролю і галоўны эканамічны ўрад, які будзе кіраваць эканамічнай палітыкай краю.

Крыленка зрабіў даклад аб арганізацыі Найвышэйшага Суду, якому будзе падлягаць: 1) агульны нагляд над выпаўненьнем канстытуцыі; 2) нагляд над судамі ніжшых інстанцыяў; 3) выпаўненьне судовых функцыяў, як апэляцыйная інстытуцыя. Праект адасланы да камісіі.

Чычэрын зрабіў даклад аб радава-фінлядзкай умове ў справе плаваньня па Няве.

---

У шостыя ўгодкі Радавых Рэспублік Камісар Заграгічных спраў Чычэрын ў гутарцы з прадстаўнікамі прэсы заявіў, што эканамічныя адносіны Радавых Рэспублік з капіталістычнымі дзяржавамі прайшлі тры фазы. Першая выяўляецца ў рэзалюцыі ў Канах; гэта быў пэрыяд, калі чужаземны капітал спадзяваўся апанаваць Радавыя Рэспублікі шляхам мірнага наступленьня і асваеньня бальшавікоў праз гандаль. 1922 год—гэта пэрыяд эканамічнага расчараваньня капіталістаў, якія пераканаліся, што Радавыя Рэспублікі не здадуцца. Цяпер перажываем трэцюю фазу—рэальнага разьвіцьця ўзаемнага прыспасабленьня. Дзеля трывожнай сытуацыі ў Эўропе радавая ўлада асабліва цэніць эканамічныя адносіны з заграніцай, якія павінны адыграць паважную ролю для зьмяншэньня небясьпекі новага трывожнага пэрыяду.

---

лепей мы будзем карміць карову, чым лепшага і болей будзем даваць ёй корму, тым больш і лепшага дасьць карова нам малака. Але аднаго гэтага йшчэ мала, і вось дзеля чаго.

Можна карову карміць так, што яна, праўда, будзе даваць малака многа, але калі мы падлічым вартасьць корму, што карова зьела, і вартасьць таго малака, што яна дала, дык можа выйсьці так, што корму карова зьела на шмат больш, чым варта малако. Зразумела, што такое кармленьне зусім ня йдзе на карысьць гаспадаркі. Так **багата** карміць карову можна толькі тады, калі ў гаспадарцы ёсьць шмат лішняга корму, якога няма патрэбы збываць на старану, але нават і ў гэткіх выпадках перакармліваньне каровы ня мае гаспадарскага сэнсу.

Як і беднае кармленьне, так і залішне багатае аднолькава шкодны для малочнай каровы. У першым разе карова будзе худзець і не даваць малака ад таго, што атрымліваемага ёю корму мала нават на падтрыманьне цела і жыцьця. Калі карміць карову занадта багата, дык частка корму, апроч тэй, што пойдзе на абнаўленьне аджыўшых частак, складаючых цела, на падтрыманьне цеплыні і на вырабатку тэй колькасьці малака, якую карова можа даць, гэтая — як-бы лішняя частка корму пойдзе на сала і карова пачне сыцець. Ведама напэўна, што сытая карова больш прыгодна на мяса, чым на малако, бо сытыя каровы даюць малака менш.

З усяго сказанага вышэй можна зразумець, што кормячы малочную карову, заўсёды трэба карыстацца нейкай меркай: каб і не недакарміць і і не перакарміць, а карміць якраз „у меру“. Апрача таго, што як беднае, так і багатае кармленьне дрэнна адбіваюцца на самой малочнай карове (ў першым разе яна худзеець, а ў другім—сыцееець), у інтарэсах кожнага гаспадара пажадана мець заўсёды таннае малако, гэта значыць, **каб пры найменшых выдатках корму, мець ад каровы найбольш малака.** Толькі ў гэткім разе можа быць карысьць для гаспадаркі ад каровы. Умець карміць „якраз у меру“ і так, каб малако было таннае, зьяўляецца галоўнай асновай правільнага кармленьня малочнай каровы.

Як ведама, у нас на вёсках зусім мала звярачваюць увагі на карменьне каровы. Праўда, віною гэтага часта бывае недахватак корму, або яго аднастайнасьць, але найгоршай віной трэба лічыць няведаньне сялянамі агульных асноваў кармленьня. Ведаючы іх, можна нават у варунках малазаможнай вясковай гаспадаркі мець ад кароў шмат больш карысьці малаком зімой, чым маюць сяляне. І толькі дзякуючы таму, што кармленьне кароў вядзецца бяз ніякага разуменьня гэтай справы, а проста па ўспадкаванаму ад далёкіх продкаў парадку, селянін часта ня мае ад сваей каровы малака нават для таго, каб, як кажуць, „засівіць“ міску круп.

Вось тутака якраз мы маем на мэце растлумачыць асновы правільнага кармленьня малочнай каровы і паказаць мала знаёмаму ў гэтай справе тыя падставы, на якія яно апіраецца. Спадзяёмся, што азнаёміўшыся з імі, кожны зразумее чым дрэнна, у сэнсе нязыскоўнасьці для гаспадаркі, нашае цяперашняе кармленьне каровы і як зрабіць яго больш танным і больш карысным.

Перш, чым павясьці гутарку аб тым, як трэба правільна карміць малочную карову, мы павінны разгледзець усе тыя кормы, якімі можна карміць карову, а таксама, як той ці іншы корм пераграўляецца вантробамі каровы, бо ня ведаючы гэтага, няма як вясьці гутарку аб правільным кармленьні.

**З якіх часьцей складаецца корм.** Карміць карову можна шмат чым: сенам, саломай, мякінай, бульбай, розным збожжам, як цэлым, так і молатым. Усе пералічаныя вышэй рэчы, якімі можна карміць карову, называюцца агульным словам **карміной** або **пошарам.** Кожная з іх паасобку ўзятая, як напрыкл. бульба, сена, салома і іншыя, завецца **кормам.** Дзеля гэтага, калі ў сваей далейшай гутарцы мы будзем казаць **пошар**, дык пад гэтым трэба разумець усё тое, што ў гаспадарцы скармліваецца каровай, а калі будзем успамінаць слова **корм**—у гэткім разе трэба разумець толькі нешта адно.

На першы пагляд здаецца, што паміж асобнымі кормамі, як напрыклад салома і бульба або сена і авёс, зусім няма нічога супольнага, бо адзін на другі яны не падобны. Але гэта толькі здаецца. Як ведама, калі пачнем карміць карову адным сенам, або аднэй саломай, ці аднэй бульбай, то карова ня здохне з голаду. Карова будзе жыць на аднэй саломе (праўда ня зусім поснай) на адным сене, на аднэй бульбе і гэтак далей. Вось з гэтага можна зразумець ясна, што хоць салома на бульбу не падобна, але як першая, так і другая маюць нейкую адналькавую **сыць**, якая падтрымлівае жыцьцё каровы. І тое, што ад аднаго корму карова будзе адчуваць сябе лепей, а ад другога горш, сьведчыць нам, што ў адным корме, як напрыклад сене, гэтай сыці ёсьць больш чым у другім, напрыклад саломе. Зразумела, што ўсё тое, што ня маець гэтай сыці, ня можа быць кормам, а чым больш корм будзе мець сыці, тым больш ён будзе сытны, лепшы, і наадварот.

Што-ж гэта такое сыць і як пазнаецца колькі яе ёсьць у кожным корме?—На гэта пытаньне мы адкажам крыху пазьней, а цяпер скажам з чаго складаецца наагул кожны корм.

Кожны корм перш-наперш складаецца з вады і сушы. Адзін корм, як напрыклад бульба, буракі, сырая трава і інш., маюць вады больш, а другія (сена, салома, збожжа і інш.) менш. Праўда, на першы пагляд сена, салома і збожжа нам здаюцца зусім сухімі, але калі мы высушым ахапак сена ці саломы ў печы і зважым яго пасьля гэтага, дык заўважым, што яно палягчэла на колькі фунтаў, а палягчэла ад таго, што вада, якая была ў ім, высахла.

Ніжэй мы паказываем колькі маюць два з палавінай пуды (100 фунт.) кожнага корму фунтаў вады і сушы.

| | вады. | | сушы. |
|---|---|---|---|
| Сена . . . . . . . . | 15 ф. | — — — | 85 ф. |
| Салома . . . . . . . | 15 „ | — — — | 85 „ |
| Мякіна . . . . . . . | 14 „ | — — — | 86 „ |
| Трава сырая . . . . | 80 „ | — — — | 20 „ |
| Бульба . . . . . . . | 75 „ | — — — | 25 „ |
| Буракі . . . . . . . | 88 „ | — — — | 12 „ |
| Збожжа: авёс, жыта, ячмень. . . . . | 14 „ | — — — | 86 „ |

Корм, які маець многа вады (трава, буракі, бульба, брага), называецца **сырым**, а той, што мае мала вады—**сухім.**

Вада ў корме ня мае ніякай асаблівай сытнасьці, а наадварот толькі вадзіць: робіць яго цяжкім і нятрывалым.

**Суш**, частка корму, якая ня маець зусім вады, таксама складаецца з колькіх частак. Вучонымі напэўна даказана, што суш складаецца галоўным чынам **з бялка, крахмалу, цукру, алею і дзерава.** Вось ад таго, колькі іх будзе ў корме і якога з іх больш, залежыць сытнасьць корму.

Да гэтага часу прызналі de jure зьмену ўстрою Расейскай Радавай Сацыялістычнай Рэспублікі на Саюз Радавых Сацыялістычных Рэспублік гэткія дзяржавы: Фінляндыя, Латвія, Эстонія, Літва, Нямеччына і Пэрсыя.

У Гомелі ўтвораны першы жыдоўскі тэрыторыяльны полк чырвонай арміі. Жыдоўскія тэрыторыяльныя батальёны творацца таксама ў Менску і Смаленску.

Кампанія міжнароднай дапамогі нямецкім работнікам ідзе добра. Ад работніцкіх арганізацыяў Францыі, Англіі, Галяндыі, Чэхіі і С. С. Р. Р. сабрана больш 80.000 даляраў. У Нямеччыну адпраўлена некалькі тысячаў тонаў хлеба, закупленага ў Радавых Рэспубліках.

Экспорт С. С. Р. Р. за дзесяць месяцаў 1923 г. даходзіць да 130 мільёнаў залатых рублёў.

У гэтым годзе дабыча газы ў Грозным правысіла даваенную; у Баку падыходзіць да даваеннае нормы; усяго дабыта 18 мільёнаў пудоў.

### ФРАНЦЫЯ.

Рада Саюзу францускіх горных работнікаў абвесьціла, што зробленыя ўмовы з уласьнікамі капальняў зьяўляюцца нездавальняючымі. Рада дамагаецца, каб ува ўсіх капальнях былі зроблены новыя ўмовы. У выпадку, калі да 19 лістапада ўмовы ня будуць падпісаны, распачнецца забастоўка.

### АНГЛІЯ.

У Англіі ідзе падрыхтоўка да выбараў у Парлямэнт, якія маюць адбыцца ў пачатку сьнежня.

Лідэр сацыялістаў Макданальд сказаў дзьве прамовы, заяўляючы, што Партыя Працы пераходзіць да выразнага наступленьня, дамагаючыся нацыяналізацыі капальняў і інш.

## З Польскага Сойму.

На злучаным паседжаньні адміністрацыйнай і канстытуцыйнай соймавых камісіяў адбылася дыскусія над урадовым праектам наданьня ўраду надзвычайных паўнамоцтваў, якія тлумачацца нібы-то ашчаднасьцю. Згодна з гэтым праектам урад атрымае паўнамоцтвы да касаваньня і рэарганізацыі ўстановаў і ўладаў, здачы ў арэнду і прадажы дзяржаўных прадпрыемстваў і ўрэшце да касаваньня уставаў, якія датычуць арганізацыйных нормаў.

Прапазыцыя лявіцы аб пераходзе да парадку дня над гэтым праектам, як спрэчны з § 6 і 3 канстытуцыі, была адкінута і камісія пачала разгляд праекту. Прамоўцы апазыцыі зазначалі, што ўстава імкнецца перарабіць канстытуцыйную дзяржаву на паліцэйскую, што ўстава ня мае на мэце ашчаднасьць, а павялічэньне ўлады сучаснага ўраду, што ўстава зьяўляецца замахам на дэмакратычны лад дзяржавы, але ня гледзячы на гэтыя закіды, ўсёж-такі ўстава прынята большасьцю хьены і пяста.

## З газэт.

### Сьвядоцтва ворагаў.

Пасьля цэлага раду брахлівых напасьцей Іогана Обста ў „Dzien. Wil.“ прыведзеныя ім даносы на ксяндзоў-беларусаў, вінавачаных польскай шляхтай у „бальшавізьме“ і таму падобных „праступленьнях“, выкарыстаў эндэцкі пасол Ян Заморскі у стацьці „Z północno-wschodnich kresów“, надрукаванай у „Gaz. Warsz.“,

Ня будзе вясьці з ім ніякае спрэчкі, бо нельга-ж пераконываць людзей, якія самі ведаюць, што варта іхняя зьвяга. Затое адзначым, што ў мамэнт абурэньня з прычыны нязгодлівасьці ксяндзоў-беларусаў займацца апалячываньнем свайго народу п. Заморскі зусім неўспадзеўкі публічна прызнаў, што Віленшчына—зусім „няпэўная“ з боку сваей афіцыяльна абвешчанае „польскасьці“, і праца ксяндзоў-беларусаў у кірунку нацыянальнага прабуджэньня беларусаў-каталікоў можа разьбіць усе захватніцкія пляны польскіх нацыяналістаў—як сьвецкіх, так і ў сутанах.

Запраўды, як іначай можна разумець канцавыя словы стацьці п. Заморскага, які піша:

> „Галоўным вінавайцам тутака зьяўляецца віленскі біскуп кс. Матулевіч, накінуты ў часе вайны немцамі. Зусім незразумелым зьяўляецца тое, што польская ўлада праз пашану да касьцельнага дастаенства церпіць на біскупскім пасадзе гэтага ўзгадавальніка і пратэктара агітатараў. Дзеля карысьці рэлігіі і *польскага народу* (—курсіў наш. *Рэд.*) трэба чым хутчэй скінуць яго з гэтага становішча і зусім зрэфармаваць віленскую духоўную сэмінарыю. *Інакш віленская дыэцэзія прападзе для Польшчы* (—курсіў наш. *Рэд.*), для каталіцкае рэлігіі, для заходняе цывілізацыі. Шкоды, зробленыя за апошнія шэсьць гадоў, некалькі разоў вялікшыя, чым усе расейскія перасьледаваньні за паўтараста гадоў“.

Чытаючы гэтыя радкі, беларускія ксяндзы павінны з гордасьцяй сказаць, што яны нязвычайна памаглі дзеля нацыянальнага прабуджэньня беларускага каталіцкага насяленьня, якое палякі лічылі ўжо зусім „сваім“. І мы ахвотна верым, што праца над нацыянальным усьведамленьнем беларускае каталіцкае масы ў шмат вялікшай меры аслабіла ўплывы на наш народ палякоў, чым уся дурная і агідная палітыка царскага ўраду. Дзіўна толькі, што эндэкі, самі добра разумеючы бязмэтнасьць уціску, клічуць польскі ўрад, каб пайшоў па сьлядох Мураўёва і яго насьледнікаў!

Дзіўна такжа, што супольнае бачаць эндэкі ў апалячаньні беларусаў і.... *заходняй* цывілізацыі, калі самі ў сваей палітыцы йдуць па дарозе, вызначанай чыста *ўсходняй* расейскай цывілізацыяй у старарэжымным духу?

Але найбольш дзіўна тое, што п. Заморскі паважна думае, быццам сярод ксяндзоў-беларусаў, нацыянальна сьвядомых, знойдуцца людзі, якія працавалі-бы не для карысьці свайго беларускага, а для польскага народу. Гэта ўжо такі абсурд, што мы ня можам зразумець, як паважная газэта „Gaz. Warsz.“ прапусьціла гэткія наіўныя (—каб не сказаць вастрэй!) думкі....

## З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

Урад Беларускага Студэнцкага Саюзу падае да ведама, што ў нядзелю 18 лістапада с. г. а 3-яй гадз. па паўдні ў памешканьні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня, Віленская 12, адбудзецца агульны сход сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу.

Пажадана прысутнасьць усіх сяброў Саюзу, як і студэнтаў-беларусоў, навауступіўшых у Унівэрсытэт.

Парадак дня:

1) Справаздача Ураду Саюзу і Рэвізыйнае Камісіі за мінуўшы год.

2) Выбары новага Ураду Саюзу.

3) Бягучыя справы.

**Паседжаньне Прэзыдыуму Цантр. Белар. Шк. Рады.** У нядзелю 11-га гэтага лістапада адбылося паседжаньне Прэзыдыуму Цантр. Белар. Школьнай Рады. Абгаварываліся пытаньні аб пашырэньні дзейнасьці Т-ва і бягучыя справы.

У нядзелю 18 лістапада адбудзецца паседжаньне Цантральнай Беларускай Школьнай Рады.

**Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.** У нядзелю 18 гэтага лістапада, а 4 г. 30 м. па паўдні ў памешканьні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня адбудзецца Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні. Прысутнасьць усіх сябраў абавязкова.

**Вечарына.** Гурток Беларускіх кабет ладзіць вечарыну на карысьць беларускага прытулку ў Вільні.

**Загад Дэлегата Ураду.** Пан Дэлегат Ураду выдаў загад, які адмяняе выданую раней забарону аб ладжаньні ўсялякіх паходаў, мітынгаў і сабраньняў пад адкрытым небам, у тым ліку і пасольскіх, а таксама прадажы сьпіртовых напіткаў.

Усялякія сабраньні і паходы пад адкрытым небам, у тым ліку і пасольскія, цяпер могуць адбывацца толькі па атрыманьні адпаведнага дазволу адміністрацыйных уладаў.

### Весткі з вёскі.

**В. Дубоўка**, Дзісенскага павету.

Яшчэ ў леташнім годзе сяляне вёскі Дубоўка Лужэцкай гміны пачалі клапатаць аб тым, каб як-небудзь адчыніць у сваей вёсцы беларускую пачатковую школу. Не зважаючы на ўсе перашкоды, якія ім рабілі і гміна і павет, сяляне цьвёрда дамагаліся свайго. Наастатак, пастанова сялян вёскі Дубоўкі была т-кі зацьверджана гміннай радай і школьным інспэктарам. Дзякуй Богу! Цешыліся сяляне: будзем т-кі мець родную школу. Але нгдзеі сялян штосьці аж да гэтага часу йшчэ ня могуць збыцца. Не зважаючы на тое, што беларуская пачатковая школа ў вёсцы Дубоўцы і зацьверджана і ўнесена ў школьную сетку разам з польскімі, усёж-ткі чамусьці школы няма і пасылаць дзяцей вучыцца няма куды. А няма школы быццам дзеля таго, што інспэктар школьны на Дзісенскі павет ня маець адпаведнага кандыдата на кіраўніка школай. Калі знойдзецца гэты адпаведны вучыцель, ніхто ня ведае. А тым часам у Лужэцкай гміне ёсьць шмат безработных вучыцялёў-беларусаў, якія-б з вялікай ахвотай хоць сягоньня ўзяліся-б за працу. Але ўся бяда ў тым, што яны чамусьці „неадпаведныя“.

Ці не магла-б у гэтай справе памагчы сялянам вёскі Дубоўкі Цантральная Беларуская Школьная Рада ў Вільні. Бяда, нават, ня ў тым, што дзеці нашы йшчэ год застануцца без навукі, але магчыма, што не знайшоўшы адпаведнага вучыцеля беларуса. Школьны інспэктар назначыць нам пазнанца або „галілеяніна“ і тады зчэзьне усякая надзея на істнаваньне адзінай беларускай пачатковай школы на ўсей Дзісеншчыне.

**Я. Дубоўка.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Менску.

**Лекцыі на беларускай мове.** У гэтым вучэбным годзе ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце будзе выкладацца на беларускай мове, апрача беларусазнаўства, таксама і „агульная тэорыя права“.

**Вынікі прыёму ў Б.Д.У.** У гэтым годзе ў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт было падана 1556 заяў.

З гэтага ліку прынята ў Унівэрсытэт 1104 чал.

На асобныя факультэты прыняты гэткі лік студэнтаў:

на мэдыцынскі факультэт—231 ч., на пэдагагічны—423 і на факультэт грамадзянскіх навук—450.

**Вынікі прыёму ў сельска-гаспадарчы інстытут.** У гэтым годзе ў сельска-гаспадарчы інстытут было пададзена 408 заяў.

З гэтага ліку прынята ў інстытут 203 чал. (у тым ліку 118 камандыраваных).

Нацыянальны склад прынятых гэткі: 139 беларусаў, 37 расейцаў, 25 жыдоў і 2 украінцы.

Па мейсцу выдачы камандыровак прынятыя разьмяркоўваюцца гэткім чынам: Беларускай рэспублікі—72, Вітабскай губ.—24 і Гомельскай—22.

Па стану—178 мужчын і 25 кабет.

**Выезд Я Купалы ў Крым.** Па камандзіроўцы ЦКУБУ беларускі паэт Янка Купала выехаў на месяц у Крым лячыцца ад плеўрыту.

### Залежы крэйды на Беларусі.

*(З матар'ялаў Экан. Нар. Беларусі).*

У Барысаўскім павеце крэйдавыя залежы зусім не абсьледаваны; маюцца-ж яны там каля ракі Бярэзіны, на мяжы з Польшчаю, недалёка ад рэчкі Гайны. Таксама знаходзяцца вапнавыя горы ў 15 вёрстах ад м. Смалявічы, каля с. Рудня.

У Чэрвенскім павеце крэйдавых адлажэньняў пакуль ня знойдзена, але сяляне кажуць, што ў в. Калюжыны на левым беразе р. Ушы знаходзяцца буйныя крэйдавыя адлажэньні.

У Навагрудзкім і Пінскім паветах маюцца крэйдавыя адлажэньні ў вагромных абхватах, як, напрыклад, каля сяленьняў Біковічі, Цырыны і мяст. Міра. Багатыя залежы крэйды знаходзяцца каля м-ка Лошыцы, Пінскага павету.

У межах Мазырскага павету крэйдавыя адлажэньні выкрыты досьледамі каля сяленьняў Сьнядзін, Дарашэвіч, Ляскавіч.

У Рэчыцкім павеце таксама крэйда знаходзіцца ў вялізным ліку і здабываецца каля засьценка „Воўчая Гара“ мясцовымі жыхарамі.

**В.**

### Ахвяры на прэсовы фонд.

Ад грам. Талерка 300 латв. рублёў, ад гр. Мацыеўскага—100 латв. руб., ад гр. Рудзікава—100 латв. руб., ад гр. Казекі—1.000 латв. руб., ад грамадзян вёскі N Лунінецкага пав. 6.220.000 мк. п., ад гр. Дзюбака—3.000.000 м. п., ад гр. Міхнюка з Амэрыкі—10 даляраў.



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла**.

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.